№ 8 (1571)
Чацвер, 16 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

**Народная Воля**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі ападкі, пераважна дождж, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 6—11, па паўночным захадзе парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — +2...+4, Гродне, Брэсце, Мінску, Магілёве — +3...+5, Гомелі — +4...+6.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, у асобных раёнах туман, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 7—12 м/с, 17-га па поўначы парывы да 15—20. Тэмпература паветра ўначы — -3...+2, удзень — 0...+5.



ВЫБОРЫ

# Нас не нейтрализуешь!

Фактически завершился первый важный этап избирательной кампании. Зарегистрированы и начали работать инициативные группы по выдвижению кандидатов в местные Советы депутатов. Конечно, кандидата может выдвинуть и партийный комитет, но большинство кандидатов от партий, которые собираются серьезно вести избирательную кампанию, используют сбор подписей для работы с избирателями.

Центральная избирательная комиссия опубликовала статистические данные о количестве инициативных групп у различных политических партий. Из 18 зарегистрированных Министерством юстиции партий своих кандидатов пока выставили только 13. Безусловным рекордсменом по количеству зарегистрированных инициативных групп является Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада). БСДП выдвинула 102 кандидата, и это без учета кандидатов в сельские и поселковые Советы. Особенно внушительно выглядит количество социал-демократов, выдвинутых в областные Советы — 23, то есть больше, чем все остальные оппозиционные партии вместе взятые.

В ходе избирательной кампании развеялся миф о "расколе социал-демократического движения". Таблица, размещенная на интернет-сайте Центризбиркома, хорошо иллюстрирует этот факт. Широко разрекламированная в некоторых СМИ незарегистрированная ОСДП выдвинула только **нескольких** кандидатов, один из которых Павел Знавец, проживая в Курасовщине, почему-то решил попытать своего счастья на другом конце Минска — в Уручье, в округе, где собирается баллотироваться первый заместитель председателя БСДП Алесь Арестович.

На выборы БСДП идет в составе блока — Социал-демократический союз (СДС), куда также входят Белорусская партия труда и Белорусская партия женщин "Надзея". Партии, входящие в СДС, имеют общую избирательную программу и единый избирательный штаб. В рамках более широкого общественно-политического движения — Конфедерации "За социальные перемены" — достигнуты соглашения о разделе округов и координации действий во время выборов еще с двумя партиями — Партией коммунистов Белорусской и Либерально-демократической партией, которые входят в Конфедерацию вместе с партиями СДС. Только недавно удалось достигнуть, хотя и неполного, соглашения с ОГП о распределении округов в городе Минске. К сожалению, так и не удалось достигнуть такого же соглашения с Партией БНФ. Несмотря на то, что БСДП выдвинула в Минский городской Совет только 11 кандидатов на 55 мест, большинство из них имеют конкурентов из Партии БНФ.

У нас нет сомнений, что выборы будут вестись по правилам, не равным для всех, и против кандидатов, критически настроенных к власти, будут применяться различные способы по их нейтрализации. Мы будем работать в любых условиях, потому что наши идеи находят поддержку у населения, а это означает, что мы идем правильным путем.

**Сергей РОМАНЬКО,**
**председатель Октябрьской районной организации БСДП г.Минска.**

## Информация об итогах регистрации инициативных групп по состоянию на 13.01.2003г.

| | Областные и Минский городской Советы депутатов | | | Районные Советы депутатов | | | Городские (городов областного подчинения) Советы депутатов | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Подано заявлен. | Зарег. | Отказ. в регистр. | Подано заявлен. | Зарег. | Отказ. в регистр. | Подано заявлен. | Зарег. | Отказ. в регистр. |
| Всего инициативных групп | 605 | 600 | 5 | 1851 | 1847 | 4 | 638 | 632 | 6 |
| Среди выдвигаемых кандидатов в депутаты членов партий: | 149 | 149 | 0 | 80 | 80 | 0 | 167 | 165 | 2 |
| в том числе | | | | | | | | | |
| Коммунистическая партия Белоруссии | 11 | 11 | 0 | 12 | 12 | 0 | 13 | 13 | 0 |
| Партия коммунистов Белорусская | 25 | 25 | 0 | 22 | 22 | 0 | 16 | 16 | 0 |
| Объединенная гражданская партия | 25 | 25 | 0 | 15 | 15 | 0 | 43 | 43 | 0 |
| Либерально-демократическая партия | 8 | 8 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 2 | 0 |
| Партия БНФ | 27 | 27 | 0 | 18 | 18 | 0 | 30 | 30 | 0 |
| Аграрная партия | 9 | 9 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада) | 34 | 34 | 0 | 9 | 9 | 0 | 60 | 59 | 1 |
| Белорусская социал-демократическая Грамада | 0 | 0 | 0 | 2 | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Белорусская партия труда | 4 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 2 | 0 |
| Белорусская партия женщин "Надзея" | 2 | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Социально-спортивная партия | 2 | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Республиканская партия | 2 | 2 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Белорусская экологическая партия "зеленых" | 0 | 0 | 0 | 2 | 2 | 0 | 1 | 0 | 1 |

КОНФЛИКТ

# Бабий бунт в Солигорске

Работницы солигорской швейной фабрики "Купалінка" вчера вновь взбунтовались. На стихийном митинге потребовали проведения собрания трудового коллектива. Под напором разъяренных женщин руководство фабрики вынуждено было такое собрание назначить на 16 января на 10 утра. На встречу с коллективом обещали прислать руководство концерна "Беллегпром".

Это не первый бабий бунт в Солигорске. Однако, будучи уже битыми руководством предприятия, "купалінкі" на этот раз потребовали проведения собрания в присутствии прессы, заявив, что ни одна из них не переступит через турникет проходной, пока не будут пропущены журналисты. Вчера работницы весь день сидели на телефонах, обзванивая редакции государственных и негосударственных СМИ. Особенно, по их мнению, желательно было бы присутствие Белорусского телевидения. Ведь директор "Купалінкі" идет по пути руководства Белтелерадиокомпании. Создал "творческие коллективы", которые и работают. Остальных, а это более 1/3 работающих, отправил на полгода, как на БТ, в "отстойник" на 2/3 тарифа, что составляет 26 тысяч рублей в месяц.

**Валерий ЩУКИН.**

ПОГЛЯД

# Грошы для «засланцаў»

Як ужо паведамлялася, А.Лукашэнка падпісаў Указ №16 "Аб дзяржаўнай падтрымцы грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі". Сам па сабе факт стварэння "кішэннай" маладзёжнай арганізацыі, якая на ўсе сто падтрымлівае палітыку афіцыйнай улады, — тыповая рыса аўтарытарнай дзяржавы. Дзяржаўная ж падтрымка, аб якой гаворыцца ва ўказе і памер якой, дарэчы, вельмі і вельмі вялікі, цесна прывязвае маладзёжных актывістаў да "палітыкі партыі".

Падобнай падрыхтоўкай бяздумных маладых функцыянераў, паслядоўнікаў "святой" справы, у аснове якой ляжыць, як правіла, чарговае ідэалагічнае смецце, не грэбавалі стаўпы "крывавай дыктатуры" Мусаліні і Гітлер, не грэбуюць і стаўпы "сучаснай дэмакратыі" Хусейн і Кастра. Многія памятаюць шматтысячныя шэсці "гітлер-югенд" у Германіі напярэдадні вайны і бессэнсоўныя ахвяры, калі 12-гадовых хлопчыкаў кідалі пад танкі падчас абароны Берліна ад савецкіх войскаў. А ўсё пачыналася таксама з дзяржаўнай падтрымкі і спроб "стварэння моцнай маладзёжнай арганізацыі ў краіне, павышэння яе ролі ў рашэнні задач дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі".

Беларускія ўлады, мяркуючы па ўсім, вырашылі пайсці яшчэ далей за сваіх гістарычных аналагаў. Як выцякае з указа №16, "лукамольцаў" будуць уключаць у склад калегій міністэрстваў, што "дасць магчымасць кіраўнікам маладзёжнай арганізацыі прымаць удзел у абмеркаванні важнейшых пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі".

Вось дык ляпсус-грандыёзус. Няцяжка сабе ўявіць сітуацыю: у якім-небудзь Міністэрстве сельскай гаспадаркі прышчаваты "засланец", адчыняючы нагой дзверы міністра, будзе настойліва рэкамендаваць яму пашырыць пасевы грэчкі ў Гомельскай вобласці з мэтай "лепшага забеспячэння маладых сямей членаў БРСМ". А калі міністр не пагодзіцца, атрымаецца, што ён супраць дзяржавы?

У сапраўды дэмакратычных краінах наогул не існуе манаполіі на падтрымку дзяржавай той ці іншай маладзёжнай арганізацыі толькі для таго, каб яна існавала альбо праводзіла ў жыццё дзяржаўную палітыку. Падтрымка дзяржавы ў такіх краінах можа існаваць пад канкрэтныя праекты, пад канкрэтныя справы. Пры гэтым грамадства ведае праз сродкі масавай інфармацыі, на што і пад якую справу выдзяляюцца дзяржаўныя грошы. А што я магу ведаць пра канкрэтныя расходы канкрэтнага "лукамольца" Пупкіна, калі нават у афіцыйным прэс-рэлізе кіраўніка дзяржавы не паведамляецца пра агульны памер фінансавай падтрымкі гэтых самых новых "югенд"?

Дарэчы, абсалютная большасць разнастайных маладзёжных арганізацый у свеце з'яўляецца сапраўды арганізацыямі грамадскімі, а значыць, павінны зарабляць грошы на сваё існаванне самі. Асноўная крыніца даходаў у іх — добраахвотныя ўзносы сяброў. Хочаш вырашаць свае праблемы, пашыраць свае інтарэсы праз маладзёжную арганізацыю — плаці ўзносы і, калі ласка, вырашай і пашырай. Такая формула дае маладзёжнай арганізацыі галоўнае — незалежнасць. Арганізацыя працуе ў дакладнай адпаведнасці са сваімі інтарэсамі і не залежыць ад настрояў малых ды вялікіх чыноўнікаў...

Сумна яшчэ і з іншай нагоды: зусім не непакояць нашы ўлады некаторыя факты пра дзейнасць "моцнай маладзёжнай арганізацыі", якую яны падтрымліваюць. У мінулым месяцы "Народная воля", напрыклад, паведамляла пра выпадак у Оршы, дзе мясцовая ячэйка ўра-патрыётаў арганізавала канцэрт расійскай рок-групы "Калаўрат", якая складаецца з членаў пранацысцкай арганізацыі РНЕ.

Дык на што, у рэшце рэшт, дае грошы дзяржава афіцыйнай маладзёжнай арганізацыі згодна з указам №16? На многае, у тым ліку, мабыць, і на арганізацыю канцэртаў нацысцкіх груп?

**Алесь СІЛІЧ.**

ПУЛЬС

## Павялічваецца кошт праезду ў грамадскім транспарце сталіцы

З 20 студзеня адна паездка на любым відзе грамадскага транспарту ў сталіцы будзе каштаваць 200 рублёў, па льготным талоне — 100 рублёў і 250 — пры продажы талона вадзіцелем.

Поўны кошт талона ў аўтобусах экспрэсных маршрутаў будзе роўны 400 рублям, ільготны — 200.

Кошт праязнога білета на адзін від транспарту складзе 9 тысяч рублёў, на два віды і экспрэсны маршрут — 12 тысяч, на тры віды — 14 тысяч.

Пасля ўвядзення новага тарыфу акупнасць працы гарадскога грамадскага транспарту складзе прыкладна 46 працэнтаў. Да канца 2003 года прадугледжана магчымасць павышэння тарыфаў да 340—350 рублёў, з тым каб расходы на працу транспарту пакрываліся хаця б на 50 працэнтаў.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Шатландыя фінансуе рэканструкцыю гомельскага палаца Румянцавых—Паскевічаў

Улады шатландскага горада Абердзін — пабраціма Гомеля — выдзелілі 1,5 тысячы фунтаў стэрлінгаў на рэканструкцыю гомельскага Палацава-паркавага ансамбля.

Свой спонсарскі ўзнос шатландцы не афармілі належным чынам (не патлумачылі пісьмова прычыны пералічэння грошай). З-за гэтага Дэпартамент па гуманітарнай дапамозе пакуль не дае дазволу выкарыстоўваць грошы па прызначэнні. Гомельскія ўлады спадзяюцца, што такі дазвол будзе ўсё-такі атрыманы, і рыхтуюць неабходныя дакументы.

**Людміла ВАЛЕЎСКАЯ.**

## Міхаіл Пастухоў: «Са звальненнем журналістаў газеты «Беларускі час» у краіне знікла незалежная прафсаюзная прэса»

"Са звальненнем шасці журналістаў газеты "Беларускі час" у краіне знікла незалежная прафсаюзная прэса", — такое меркаванне ў інтэрв'ю БелаПАН выказаў кіраўнік цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Міхаіл Пастухоў.

Былая выконваючая абавязкі галоўнага рэдактара выдання І.Германовіч звязвае тое, што адбылося, са змяненнямі агульнай сітуацыі ў ФПБ. "Каб утрымацца ў сваіх крэслах, цалкам запалоханыя прафбосы пагадзіліся на кандыдатуру новага лідэра, які быў прапанаваны ўладай, — Леаніда Козіка. Ён выразна ўманціраваў федэрацыю ў выканаўчую уладу. А каб гэты працэс праходзіў больш дынамічна і гладка, новаму кіраўніцтву ФПБ патрэбна была паслухмяная газета..."

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## А.Шпілеўскі: некаторыя супрацоўнікі мытні маюць добрыя адносіны з кіраўнікамі злачынных груп

Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта (ДМК) Аляксандр Шпілеўскі станоўча ацэньвае "змяненне падыходаў да працы праваахоўных блокаў Брэсцкай мытні і мытні "Заходні Буг". Такую ацэнку ён даў на нарадзе з удзелам супрацоўнікаў абедзвюх мытняў, якое прайшло ў Брэсце.

Паводле слоў старшыні ДМК, ён цалкам валодае сітуацыяй на мытнях: "Я ведаю, што адбываецца на "Казловічах" (пункт пропуску грузавых аўтамабіляў мытні "Заходні Буг". — **заўвага БелаПАН.**). Некаторыя супрацоўнікі маюць добрыя адносіны з кіраўнікамі злачынных груп. Мы ведаем іх прозвішчы. Не ўсіх мытнікаў мы схапілі за руку, але некаторыя ўжо пастаўлены ў чаргу на звальненне".

Ёсць праблемы, паводле слоў Шпілеўскага, і на Брэсцкай мытні. Выпадак, што адбыўся тут у кастрычніку 2002 года пры праверцы цягніка Варшава—Масква, калі супрацоўнікі дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю праверылі і далі нізкую ацэнку працы мытнікаў, кіраўнік ДМК назваў "ударам пад дых мытным органам". Адначасова А.Шпілеўскі нагадаў, што прызначэнне і звальненне з мытных органаў нават шэраговых супрацоўнікаў адбываецца і будзе адбывацца з яго згоды, і ён гарантуе "абарону любому супрацоўніку, які невінаваты".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Малая зямля Міхаіла Шруба

## Сяляне калгаса-банкрута «Шлях да камунізму» распусцілі сваю гаспадарку і гуртам прыйшлі да фермера

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**



### Назад, на радзіму

На родную Тураўскую зямлю Міхаіл Шруб вяртаўся, пабываўшы, як кажуць, на кані і пад канём. Прыехаў не адзін, у разведку, а, як і належыць, з сям'ёю. Адсюль сыходзіў, сюды і вярнуўся. Спытай чаму, так адназначна і не адкажа. Усё ў яго жыцці было як быццам ды нябдлага. На самай справе! У партыйныя часы даслужыўся нават да намесніка загадчыка аграрнага аддзела абкама партыі. З гэтай пасады была самая што ні ёсць простая дарога ў першыя сакратары, старшыні выканкамаў. Але ж характар! Калі ў абкаме сталі весці аграрную палітыку болей на паперы, чымсьці на справе, не маўчаў.

Партыйнае начальства адрэагавала ў характэрным стылі: а, значыць, разумны. Кінулі Шруба на партках усяго аблаграпрама. Давай, твары сваю палітыку! Такая вось ганаровая ссылка.

Шруб не спасаваў. Аднак чым болей стараўся, тым усё выразней разумеў: і ён, і дзесяткі такіх — ваверкі ў коле. Бегчы — бягуць, а наперад — ні кроку.

Бадай, гэта ў рэшце рэшт і вярнула Шруба да зямлі, да бацькоўскіх каранёў. Ён пакінуў парткам і вярнуўся на Тураўшчыну. Стаў працаваць старшынёй пасялковага Савета. Саветы як прадстаўнічыя органы народа сталі набываць вагу ў грамадстве, пазбаўляцца ад дэкаратыўнасці.

Канешне, Шрубу прапаноўвалі іншыя немалыя пасады. Ён не пагаджаўся. Зняверылася душа. Трэба было шукаць нейкае апірышча, нейкі падмурак. Проста надакучыла чалавеку з галавою, рукамі, адукацыяй, з пэўным жыццёвым досведам жыць па ўказцы, цыркулярах, дырэктывах.

А тут яшчэ ветрык свабоды дыхнуў у творчыя ветразі беларусаў.

### Свая зямля, свая пасада

Першыя 30 гектараў зямлі ў пажыццёвае спадчыннае валоданне Міхаіл Шруб атрымаў з бацькам напрадвесні 93-га года. Да гэтага зямля належала малому прадпрыемству "Амарант". Большасць — ворыва, і два з паловай гектары — сенакосу.

Участак выдзеліў Жыткавіцкі райвыканкам на падставе пастановы Вярхоўнага Савета "Аб правядзенні зямельнай рэформы ў рэспубліцы".

Шруб, як чалавек дасведчаны ў сельскай гаспадарцы, звярнуўся да галандскіх гатункаў гародніны. На свой страх і рызыку купіў "чарнушкі" — насенне цыбулі, крыху большае, чым галоўка запалкі. Каб апрацаваць поле, наймаў трактары з сельгастэхнікі.

Пасеялі насенне цыбулі ледзь не ў гразь, у раннюю вільготную глебу. Колькі было хваляванняў, перадаць немагчыма. Спачатку, пакуль узышла. Пазней, пакуль набрала сілу. Дый пільнаваць ураджай трэба было дбайна. І не толькі цыбулю, але і капусту, і бульбу. Уначы дапамагаў бацька, Рыгор Якаўлевіч. Днём старажоўствам займалася маці, Аляксандра Рыгораўна.

Разлік Міхаіла не падвёў. Цыбулі сабралі столькі, што завалілі ўвесь бацькаў двор у вёсцы Хільчыцы. Буйная, залацістая, адна ў адну. Перабіралі, складвалі, затарвалі ў сеткі.

Парадавала і ранняя капуста. Міхаіл з жонкай Кацярынай вазілі яе ў Мінск на Камароўскі рынак.

Калі такое было! Рынак ледзь толькі адчыніцца, а яны ўжо там. І хаця напачатку грошай хапала, каб толькі наняць машыну, Шрубы радаваліся: мінчукі ахвотна куплялі іх тавар. На крамянай капусце вагою кілаграм-паўтара не паспявалі нават высахнуць кроплі расы.

Ужо калі скончыўся сезон, Міхаіл прызнаўся маці: "Капуста мяне добра выручыла".

Сын, канешне, не расказваў пра мытарствы на аптовых базах сталіцы. Там напачатку літаральна абдзіралі фермера. Скідкі ледзь не напалову ад вагі. Кацярына Шруб неяк, аддаўшы ад безвыходнасці аптавікам шэсць з паловай тон капусты, праплакала амаль усю зваротную дарогу да Турава. З такой капусты — і палова скідкі!

### Вырасціў — захавай і прадай

Сезон працы з ранняй бульбай ды гароднінай прывёў Міхаіла Шруба да простай высновы: патрэбна свая тэхніка для апрацоўкі палеткаў, гароднінасховішчы і, канешне, транспарт для дастаўкі прадукцыі спажыўцам. Усё-такі Тураўшчына досыць далёка ад вялікіх гарадоў.

На Століншчыне ў адным з калгасаў Міхаіл Шруб купіў жалезабетонныя канструкцыі для будаўніцтва не то ракетных шахт, не то адмысловых ангараў. Беларусь аб'явіла сябе нейтральнай бяз'ядзернай дзяржавай. Канструкцыі пасля вырабу на заводзе адышлі ў шэрагі цывільнай прадукцыі і патрапілі столінскаму калгасу ў якасці "трафеяў". Той не ведаў, што рабіць з гэткім падарункам.

Міхаіл Шруб выкарыстаў канструкцыі пры будаўніцтве сховішча для позніх гатункаў капусты. Абвалаваў канструкцыі метровым слоем зямлі, устанавіў вентылятары. Атрымаўся цудоўны склеп амаль на 600 тон капусты. Канешне, са сваім мікракліматам.

Партнёр Шруба, галандскі бізнесовец, агледзеўшы збудаванне, цмокаў языком, але спачувальна ківаў галавою: "Міхал, дорага!" І тут галандзец нібыта прасвятлеў: "А, разумею, дзяржава дапамагае".

Міхаіл адказаў: не, не дапамагае ніякім чынам.

Госць ушчэнт збянтэжыўся: "Міхал, не разумею!"

Ужо вечарам за сталом галандзец зноў вярнуўся да тэмы дапамогі дзяржавы фермерам.

— Міхал, ты што, падаткі не плаціш?

— Плачу спраўна, — супакойваў госця Шруб.

— Міхал, а чаму дзяржава не дапамагае фермерам? У цябе такая капуста, такая морква! Сто чалавек працуе. Міхал, ты што, на Месяц прадукцыю адпраўляеш?

Шруб усміхаўся, спрабаваў тлумачыць: фермер — гэта прыватнік, а дзяржава — падтрымлівае толькі калгасы.

Галандзец шырока раскрываў вочы і нічагусенькі не разумеў.

Шрубу між тым даводзілася пашыраць свае сховішчы. Цыбуля, напрыклад, у адрозненне ад капусты, патрабуе хаця і халаднаватага, але сухога клімату. А гэта ўжо новае памяшканне са сваёй спецыфічнай тэхналогіяй.

З гаспадаркай цяжка ўжо было ўпраўляцца, і Міхаіл паклікаў брата Якава. Той працаваў у Калінкавіцкім раёне і настаўнікам, і намеснікам старшыні калгаса. Прыехаў ў Хільчыцы і запрогся на лета рознарабочым. Напрыканцы жніўня сказаў брату: "Ладна, угаварыў, пераязджаю", — і перавёз на Тураўшчыну сям'ю.

### На заробкі да фермера

З'яўленне фермерскай гаспадаркі ў Хільчыцах шмат у чым змяніла навакольнае жыццё. У Шруба можна было зарабляць грошы.

У сезон да яго ахвотна ішлі на працу не толькі мясцовыя жыхары, але і суседзі са Столінскага раёна. Адпрацаваў чалавек дзень на пасадцы капусты, увечары атрымаў заробак. Прычым нашмат большы, чымсьці ў калгасе за цэлы тыдзень. Гэта акалічнасць асабліва раздражняла некаторых кіраўнікоў калгасаў і чыноўнікаў ад сельскай гаспадаркі.

Яшчэ болей раздражнялі вынікі працы Шруба. У фермера ўраджайнасць збожжавых сягае за 50 цэнтнераў з гектара, у калгасах — напалову меней. Бульбы Шруб збірае 260—280 цэнтнераў, калектыўныя гаспадаркі — у два з лішкам разы меней.

Гародніна наогул не ідзе ні ў якое параўнанне. Ураджайнасць яе ў 10—15 разоў вышэйшая, чымсьці ў калгасах. Калі, скажам, раёну даводзяць план пастаўкі гародніны 1300 тон, то доля фермера Шруба ў ім не меней 85 працэнтаў.

Спажыўцы ягонай прадукцыі ажно да самай сталіцы. Кааператары, 40 крамаў і прадпрыемстваў грамадскага харчавання, у тым ліку і Мінска. Наогул, Шруб куды ні прыедзе са сваёй капустай, морквай, сталовымі буракамі — яго адразу відаць. Чарга ўтвараецца ў імгненне вока. Прадукцыя нібы станком каліброваная. Адна ў адну, чыстая, прыгожая. Ніякага шалупіння. І людзям па кішэні.

Неяк у Хільчыцах спытаў ў фермера пра гэту адметнасць ягонага тавару. У адказ пачуў ад Міхаіла цэлую філасофію падыходу да гародніны.

Капуста, напрыклад. Паводле назірання Шруба, людзі ахвотней купляюць невялікія качаны капусты, якія важаць 1—1,5 кілаграма. Адсюль — пошук адпаведных галандскіх гатункаў, свая тэхналогія вырошчвання.

Трэба сказаць, што выдатная капуста ды іншая гародніна на палях фермера спарадзіла напачатку ў пэўнай катэгорыі жыхароў блізкіх і больш аддаленых паселішчаў прагу да лёгкай нажывы. Наезды мяшочнікаў на аўтамашынах і іншым больш простым транспарце прымусілі Шруба шукаць паратунку. Уласных сіл ужо не хапала, і ён стаў наймаць палявых вартаўнікоў. Сцерагчы тую ж капусту, бульбу, памідоры.

Мяшочнікаў і нават аўтамабільных злодзеяў лавілі напачатку даволі часта. Паўстала пытанне: а што з імі рабіць?

Міхаіл Шруб прапанаваў свой рэцэпт. Высек злодзей паўцэнтнера капусты — будзь добры, адпрацуй бясплатна 2 дні на полі. Не прыедзеш у вызначаны час — дакументы з актам пра крадзёж вартаўнікі накіруюць у міліцыю. Мера ў нейкай ступені астудзіла аматараў лёгкай нажывы.

### Поле бітвы

Чым больш Шруб набіраўся вопыту гаспадарання на зямлі, тым больш разумеў, што 30 гектараў — гэта ўсяго нічога. На іх можна хіба толькі "трэніравацца". Бізнес на лапіку зямлі не зробіш.

Фермер звярнуўся ў Жыткавіцкі райвыканкам. Яму пашырылі ўчастак, але ворыва ў ім дабавілася ўсяго на 13 гектараў.

Паколькі справы ў фермерскай гаспадарцы Шруба ішлі ўгару, то праз два гады Міхаіл з бацькам Рыгорам Якаўлевічам напісалі заявы пра павелічэнне зямельнага надзелу. Раённы выканаўчы камітэт, бачачы, што землі ў фермера выкарыстоўваюцца нашмат эфектыўней, прыняў рашэнне №830. Перадаў дадаткова фермерскай гаспадарцы 179 гектараў. Большая частка з іх была забрана ў калгаса "Новае жыццё", астатняя — у калгаса "Шлях да камунізму". Зроблена гэта было паводле ўказа прэзідэнта №95 ад 3 сакавіка 1998 года "Аб мерах па развіцці сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і ўзмацненні іх дзяржаўнай падтрымкі".

На падставе рашэння выканкама раённы Савет заключыў са Шрубам дамову арэнды выдзеленай зямлі на 25 гадоў.

Аднак у хуткім часе ў Жыткавіцкім райвыканкаме змяніўся старшыня. Былы кіраўнік Аляксей Сцепаненка пайшоў узначальваць рыбаводчае аб'яднанне краіны, а на ягонае месца прызначылі Пятра Савіцкага, дырэктара саўгаса з Калінкавіцкага раёна.

Новы старшыня і стаў адбіраць зямлю ў фермера. Маўляў, у калгасаў не хапае зямлі для вытворчасці кармоў. Яны за 80—90 кіламетраў ездзяць па сена.

Яшчэ адзін аргумент: трэба аднавіць жывёлагадоўчы комплекс "Казагарць" у тураўскім калгасе "Новае жыццё".

У травені 99-га раённы землеўпарадчык перадае Шрубу патрабаванне Савіцкага спыніць сяўбу.

Старшыня калгаса "Новае жыццё" атрымлівае распараджэнне пераараць прырэзаны фермеру ўчастак.

30 жніўня таго ж 1999 года райвыканкам пад старшынствам Савіцкага прымае новае рашэнне №664, якім адмяняе ранейшы дакумент пра выдзяленне зямлі фермеру як "незаконна і неабгрунтавана прыняты". Адначасова выканкам звяртаецца ў раённы Савет, каб той скасаваў дамову са Шрубам на арэнду 179 гектараў зямлі.

Адміністрацыйны сверб новага старшыні райвыканкама некаторыя тураўцы тлумачылі вельмі проста. У Савіцкага ў Тураве жывуць цесць і цешча. Вось ён і стараўся паказаць, хто тут гаспадар. Не фермер Шруб з яго высокімі ўраджаямі, а ён, адміністратар.

Шруб тым часам імкнуўся законным чынам вырашыць узніклы зямельны канфлікт. У вёску Хільчыцы, дзе размешчана асноўная база фермерскай гаспадаркі, прыязджалі спецыялісты Дзяржкамітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь. Яны на месцы вывучалі сітуацыю з адводам зямлі фермеру. Крыху пазней старшыня гэтага камітэта адмысловым пісьмом № 01-17/87 указаў райсавету і выканкаму на неабходнасць адмены рашэння №664 як незаконнага.

Пратэст на незаконнасць згаданага рашэння райвыканкаму ўнесла і пракуратура Гомельскай вобласці.

На пачатку 2000 года старшыня Жыткавіцкага райсавета Віктар Атліванаў праінфармаваў пракуратуру, што пратэст не вынесены на разгляд сесіі з прычыны падрыхтоўкі райвыканкамам іску ў суд пра скасаванне дамовы са Шрубам на арэнду зямлі. Маўляў, створана пагадняльная камісія для выпрацоўкі кампраміснага рашэння.

У сваю чаргу Пётр Савіцкі ў пісьме № 02-12/294, дасланым у пракуратуру ў красавіку, паведамляў, што адносіны са Шрубам урэгуляваны, і той нібыта не мае ніякіх прэтэнзіяў да мясцовай выканаўчай і прадстаўнічай улады.

Па сутнасці, пракуратуру ўвялі ў зман. Арандаваную зямлю Шрубу ніхто не вяртаў. Суда таксама не было. І што горш за ўсё — ніякі жывёлагадоўчы комплекс не быў аднаўлены.

### Урон, якога не было

Нягледзячы на цяганіну з зямлёй, улада ў асобе былога старшыні аблвыканкама Мікалая Вайцянкова прапанавала Міхаілу Шрубу ўзначаліць Тураўскі кансервавы завод. Фермер купіўся на прапанову. Зразумела, не з-за пасады.

Шруб даўно лічыў, што завод і калгас "Новае жыццё" павінны быць ператвораны ў адно агульнае аграпрамысловае прадпрыемства. Калгас вырошчвае прадукцыю, завод — перапрацоўвае. Рэформа дазволіла б мець тураўцам асабістую ўласнасць.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Народная Воля 16 СТУДЗЕНЯ 2003 г.

# Малая зямля Міхаіла Шруба

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

У гэтым ланцугу фермер бачыў і пэўную ролю сваёй гаспадаркі. Яна таксама пастаўляе заводу якасную гародніну. Да таго ж Шруб заклаў пітомнік пладовых дрэў у спадзяванні, што неўзабаве наўкола будуць аднаўлены састарэлыя сады. Тураўшчына стане вытворцай рознай садавіны, а завод — распачне выпуск сокаў, кампотаў, вітаміннага дзіцячага харчавання. Фермер разважаў маштабна, з перспектывай.

Райвыканкам як уласнік быццам таксама падтрымліваў ідэю рэанімацыі кансервавага завода. Але праходзілі тыдні, месяцы, а выканкам рашэння ўсё не прымаў. Больш таго, ён, па сутнасці, стаў на бок тых калгаснікаў "Новага жыцця", якія не жадалі аніякіх перамен.



*Народ купляе агародніну ў Шруба.*

Міхаіл Шруб накіроўвае старшыні райвыканкама Савіцкаму службовую запіску. Прапануе два варыянты вываду з крызісу завода.

У лютым 2001 года пад націскам абласных уладных структур райвыканкам нарэшце прымае рашэнне. Палавінчатае. Нібыта для адчэпу. Неўзабаве ў раённай газеце "Новае Палессе", яўна з падачы выканкама, з'явіўся артыкул, які ганьбіў ідэю пераўтварэнняў, прапанаваную Шрубам. На завод сталі раптоўна прыязджаць шматлікія кантралёры.

У такіх варунках Міхаіл палічыў немагчымым несці адказнасць за лёс завода і ягонага калектыва. Ён звольніўся з дырэктарскай пасады і вярнуўся да сваёй гаспадаркі, якую на час ягонага дырэктарства ўзначальвала жонка Кацярына.

Сыход Міхаіла Шруба меў наступствы. Праверка завода, што завяршылася пры ягоным дырэктарстве, нечакана была падоўжана яшчэ прыкладна на месяц. У выніку на свет з'явіўся акт, падпісаны заднім чыслом. Да яго спрычыніўся ў першую чаргу рэвізор райсельгасхарча Васіль Бандзюк.

Асноўны вывад рэвізора — сялянская гаспадарка Шруба нанесла велізарны ўрон заводу. Актам, як штандарам, размахваюць на нарадах, сходах калгаснікаў.

У раённай газеце з нагоды рэвізій сельгаспрадпрыемстваў з'яўляецца інтэрв'ю з намесніцай старшыні райсельгасхарча Надзеяй Сопат. Цікавая дэталь: іншыя прозвішчы, апроч Міхаіла і Кацярыны Шрубаў, не згадваюцца.

На падставе акта пракурор Купрацэвіч падае ў суд іск у інтарэсах Тураўскага кансервавага завода. Са Шруба пракурор просіць спагнаць 12,3 мільёна рублёў, з майстроў Шыбанавай і Карпачовай — 2 мільёны.

Былога дырэктара абвінавачваюць у рэалізацыі прадукцыі паводле заніжаных цэн. Гэта пацягнула на 9 з лішнім мільёнаў рублёў урону.

Яшчэ 3 мільёны завод нібыта страціў з прычыны заключаных дамоў з фермерскай гаспадаркай.

На судзе Шруб пераканаўча даказаў, што рэвізор падаў непраўдзівую інфармацыю пра адпускныя цэны, пераблытаў кошты пустых слоікаў і запоўненых прадукцыяй.

Што называецца, з пальца высмактаны і іншыя прэтэнзіі. У прыватнасці, дамова з фермерскай гаспадаркай па вырошчванні зялёнага гарошку дазволіла заводу атрымаць ураджай удвая вышэйшы, чымсьці ў калгасе "Новае жыццё", які таксама вырошчваў такі ж гарошак для прадпрыемства.

Суддзя Алег Касцючэнка, выслухаўшы довады ўсіх бакоў, адхіліў пракурорскі іск.

Так званая справа пра ўрон год з лішнім круцілася ў розных інстанцыях і зараз зноў вярнулася ў Жыткавіцкі раённы суд. Разглядаць яе будзе ўжо сам старшыня суда Анатоль Глюза.

## Кантроль указвае... Савіцкаму

Літаральна любое памкненне фермера Шруба наладзіць супрацоўніцтва з тураўскімі калгасамі выклікала адмоўную рэакцыю ў старшыні райвыканкама Пятра Савіцкага.

Здавалася б, што такога крамольнага, што фермер заключыў дамовы з тым жа калгасам імя XXII з'езда КПСС на пастаўку кармоў і сумеснае вырошчванне капусты. Тым не менш, дазнаўшыся пра дзелавыя стасункі, Савіцкі запатрабаваў ад старшыні калгаса разарваць дамовы.

Небарака спрабаваў пярэчыць: "Расада ў полі высаджана!"

Разгневаны Савіцкі як адрэзаў: "Расаду вырві і вярні Шрубу".

Праз пару дзён у калгас з райцэнтра наляцела камісія. Сталі правяраць абгрунтаванасць пагадненняў з сялянскай гаспадаркай Шруба, а 30 ліпеня того ж 2001 года райвыканкам прыняў рашэнне №630. Абедзве дамовы з калгасам прызнаны "как заведомо приносящие колхозу финансовые издержки". Калгаснага кіраўніка абавязалі цягам тыдня разарваць дамовы са Шрубам.

Нічога не папішаш. У Рычове сабралі праўленне калгаса, каб разгледзець рашэнне райвыканкама. Пад наглядам першага намесніка старшыні выканкама, начальніка райсельгасхарча Івана Блоцкага правялі тайнае галасаванне. Праўленне не захацела разрываць дамовы.

Старшыня калгаса злёг у бальніцу. Аднак Пётр Савіцкі, ніколькі не збянтэжаны гэтай акалічнасцю, асабіста прыехаў у Рычоў, каб прымусіць праўленцаў перайначыць сваю пазіцыю.

Вяскоўцы толькі дзіву даваліся: чаму такі сыр-бор вакол 6 гектараў капусты? Вакол процьма неўраджайных, запустазеленых палеткаў, увесну — бяскорміца на жывёлагадоўчых фермах, а тут — сапраўднае поле бою.

Глядзець на самаўпраўства фермеру Шрубу надакучыла, і ён звярнуўся з лістом да старшыні Камітэта дзяржкантролю па Гомельскай вобласці Валерыя Дулебенца. Апісаўшы падзеі, папрасіў дапамагчы знайсці адказы на такія пытанні:

1. Чаму, нягледзячы на пратэст пракуратуры, не адменена незаконнае рашэнне Жыткавіцкага райвыканкама пра адабранне зямлі ў фермерскай гаспадаркі? На якой падставе значная частка гэтай зямлі выкарыстоўваецца калгасамі "Новае жыццё" і "Шлях да камунізму"?

2. Чаму, нягледзячы на падтрымку абласных уладных структур, Пётр Савіцкі беспакарана сарваў рэалізацыю перспектыўнай праграмы развіцця вытворчасці і перапрацоўкі садавіна-гароднінай прадукцыі ў раёне?

3. Чаму старшыня райвыканкама выкарыстоўвае ўладу дзеля таго, каб спыніць узаемавыгаднае супрацоўніцтва двух законных суб'ектаў гаспадарання, добра ведаючы, што наносіцца вялікая шкода і калгасу, і фермерскай гаспадарцы?

4. Ці мае права чалавек, які на падставе ўласных амбіцый дыскрэдытуе ўладу, прадстаўляць гэту ўладу?

Міхаіл Шруб сапраўды губляўся ў здагадках. Праўдападобна, старшыню райвыканкама мучыла зайздрасць. Фермерская гаспадарка не кленчыць ільготаў, крэдытаў, не ківае на надвор'е, не бегае з актамі вымачкі-высушкі пасеваў, а атрымлівае стабільна высокія ўраджаі. Болей таго, гаспадарку прызнаюць лепшай у краіне.

Пакуль спецыялісты Дзяржкантролю правяралі ліст фермера, адбылася яшчэ адна заўважаная падзея. У Гомель прыязджаў Аляксандр Лукашэнка. На нарадзе ў аблвыканкаме выступіў і Міхаіл Шруб.

Пачуўшы пра зямельныя праблемы фермера, кіраўнік дзяржавы выказаўся літаральна так: "Дайце яму зямлі, колькі ён хоча!"

Калегія рэгіянальнага Камітэта дзяржкантролю праводзілася пасля гэтай падзеі. Спецыялісты, у прыватнасці, канстатавалі, што калгас імя XXII з'езда КПСС ад супрацоўніцтва з фермерам атрымаў 6,12 мільёна рублёў прыбытку, а рэнтабельнасць сумесна вырашчанай капусты склала 382 працэнты.

Пётр Савіцкі ў сваю чаргу апраўдваўся. Маўляў, клапаціўся пра стан калгасаў, іхнюю кармавую базу. Калі Шрубу мала зямлі, няхай бярэ пойму альбо арандуе пясчаныя палеткі за 90 кіламетраў ад Турава — у сельгаспрадпрыемствах "Случ", "Ленінскае". Там зямлі хапае!

Сказаў на калегіі сваё слова і фермер: "Я сюды прыйшоў не капусту дзяліць і не зямлю адваёўваць. Як грамадзянін, я маю права выказаць свае адносіны і прэтэнзіі да ўлады. Жыць па законе трэба ўсім".

Са слоў фермера вынікала наступнае. Калі б райвыканкам разам з калгасамі выкарыстоўваў зямлю так, як ён, то на Тураўшчыне вызвалілася б каля 800 гектараў ворыва.

Калегія Камітэта дзяржкантролю падрыхтавала на адрас Гомельскага аблвыканкама адмысловае прадстаўленне з патрабаваннем разгледзець мэтазгоднасць далейшага выкарыстання Пятра Савіцкага на пасадзе старшыні раённага выканаўчага камітэта.

У хуткім часе пасля калегіі ў жыткавіцкай раённай газеце "Новае Палессе" з'явілася заява шэрагу калгасных кіраўнікоў. "Лічым, — пісалі яны, — рашэнне калегіі Камітэта дзяржкантролю па Гомельскай вобласці неаб'ектыўным і несправядлівым, у нейкай ступені абразлівым для ўсяго кіруючага складу рэгіёна, лічым, што яно прынята паспешна і неабдумана". Словам, ускурылі фіміям: Шруб пра людзей не думае, а з Савіцкім "сельская гаспадарка Жыткаўшчыны атрымала ў прамым сэнсе другое дыханне".

Між тым аблвыканкам усё-такі разглядаў рэкамендацыю кантрольнага органа. Савіцкаму ўказалі на самаўпраўства, але на пасадзе пакінулі. Нават цяжка сказаць, што болей паўплывала: ці то ягонае адносна нядаўняе прызначэнне, ці то заява, што, маўляў, фермер працуе на сябе, а пра вясковы люд, апроч калгасаў, думаць няма каму. Падалося нават, што чальцы выканкама, уключна і старшыня Аляксандр Якабсон, знаходзіліся нібыта пад гіпнозам: і праўда, чаму гэта Шруб у прыдачу да зямлі не бярэ калгас разам з пенсіянерамі і не клапоціцца пра ўсіх разам?

## Паварот ад «Шляху да камунізму»

Мінула недзе месяцы са два. Быў ужо пачатак лютага 2002 года. У вёсцы Хільчыцы, цэнтры калгаса "Шлях да камунізму", ладзіўся справаздачны сход. Усіх цікавіла: як жыць далей?

Старшыня калгаса Валянціна Маркевіч прапанавала рэфармаваць калгас у вытворчыя кааператывы — адну з 10 мадэляў, адобраную ўрадам.

Запрасілі калгаснікі выступіць на сходзе і фермера Шруба. Не чужы ж Міхаіл чалавек — свой, аднавяскоўец. Вырас на вачах аднавяскоўцаў. Бацька, маці тут жывуць, брат-настаўнік вярнуўся ў вёску, стаў працаваць у фермерскай гаспадарцы.

Вынікам выступлення калгаснага старшыні і фермера стала галасаванне. І тут нібы гром з яснага неба. Сяляне заявілі: усё, хопіць нам калгаса, далучаемся да фермера.

Падлічылі галасы — 150. Усіх жа калгаснікаў разам з пенсіянерамі — 420. Рашэнне неправамоцнае. Не хапае галасоў да дзвюх трэцяў. Начальства ўзрадавалася, а вёска — забурліла.

Праз тры тыдні ў Хільчыцах зноў сход. Шумны, эмацыянальны. Нават рэдактар "раёнкі" Гаўрыловіч, які не знаходзіў да гэтага добрых слоў для лепшага фермера Беларусі, змушана канстатаваў у справаздачы пра сход: *"Мне ўпершыню давялося сутыкнуцца, мякка кажучы, з такой незадаволенасцю людзей. Спытаеце — чым ці кім? Усім відаць, што зыходзіла ад кіраўніцтва калгаса. Абсалютнае бязвер'е і, калі хочаце, антыпатыя"*.

Пра што гэта рэдактар? Ці не памыліўся? Пачытаеш "раёнку", дык уражанне такое, што Шруб толькі і думае пра асабістую карысць, а пра людзей — дбаюць выключна калгасныя кіраўнікі і, канешне, старшыня райвыканкама.

Праўда, людзі не сляпыя. У калгасе за 2001 год — 122 мільёны рублёў стратаў, рэнтабельнасць вытворчасці — мінус 16 працэнтаў, агульная крэдыторская запазычанасць — 314 мільёнаў. У фермера — прыбытак, прычым больш, чым ва ўсіх грамадскіх сельгаспрадпрыемствах раёна разам узятых. Калгас "Шлях да камунізму" атрымаў 90 мільёнаў бюджэтнай дапамогі, а ў бюджэт нічога не паклаў. Фермер і без дапамогі ўнёс у дзяржаўную скарбонку 60 мільёнаў рублёў. У калгасе — засуха, фермер — з ураджаем. У калгасе месяцамі нават мізэрнага заробку не бачаць, у фермера сярэдні заробак — амаль 150 тысяч рублёў. Выплачваецца кожны тыдзень. Фермер нават сваіх пяцярых механізатараў, схільных да "зялёнага змія", возіць лячыць ад алкагалізму ў Мінск.

Калгасны сход другі раз пацвярджае сваё рашэнне далучыцца да фермерскай гаспадаркі Шруба. "За" — 284 калгаснікі, "супраць" — 1. Праца праўлення і старшыні Валянціны Маркевіч прызнаецца нездавальняючай. Праўленне вяскоўцы распускаюць. Прымаецца новы статут. Калгасная зямля і маёмасць галасаваннем перадаюцца на баланс фермерскай гаспадаркі. Выконваючым абавязкі старшыні на час перадачы маёмасці калгаснікі прызначаюць бухгалтара Міхаіла Тачылу. Калгас "Шлях да камунізму" фактычна спыняе сваё існаванне.

## Чыноўнікі — супраць

Новая рэальнасць у Хільчыцах не зацямніла галоўнага. З надыходам вясны ўсё прыйшло ў рух. Вяскоўцы пад кіраўніцтвам Міхаіла Шруба засявалі зямлю, даглядалі жывёлу, нарыхтоўвалі кармы.

Фермер, прыняўшы маёмасць на свой баланс, а дзейных 166 калгаснікаў — на працу, падаў дакументы праз Жыткавіцкі райвыканкам у абласны выканаўчы камітэт для юрыдычнага афармлення новага стану сваёй гаспадаркі.

Справа цягнулася з вясны да самай восені. 9 верасня 2002 года Гомельскі аблвыканкам рашэннем № 595 адмовіў у перарэгістрацыі сялянскай гаспадаркі Міхаіла Шруба. Палічыў, што ў выніку рэарганізацыі "парушаюцца маёмасныя і сацыяльныя правы членаў калгаса".

Шруб не стаў мірыцца з адмоваю. Звярнуўся ва ўрад краіны. Пазней падаў заяву ў Гомельскі гаспадарчы суд на адмову аблвыканкама перарэгістраваць фермерскую гаспадарку з улікам рашэння калгаснікаў.

У Хільчыцы зноў зачасцілі камісіі. Адна з іх у складзе спецыялістаў аблаграпрама зрабіла выснову, что фермерскай гаспадарцы Шруба неабгрунтавана адмоўлена ў перарэгістрацыі. Вынік — правяраючых пазбавілі прэміяльных.

У лістападзе па даручэнні прэм'ер-міністра ў Жыткавіцкім раёне працавала іншая шматлікая камісія. Ачольваў яе начальнік дэпартамента эканомікі Міністэрства сельскай гаспадаркі Сямён Шапіра.

Акта камісіі ні Шруб, ні в.а. старшыні калгаса Міхаіл Тачыла не бачылі і не падпісвалі. Затое ў хуткім часе ў Саўмін паступіла інфармацыя першага намесніка міністра сельскай гаспадаркі А.Дазорава. Аб чым жа інфармуе Дазораў урад краіны? Чытаем: "Нягледзячы на адмову аблвыканкама, фермерская гаспадарка і калгас дэ-факта пачалі працаваць як адна юрыдычная асоба, маёмасць калгаса была прынята на баланс сялянскай (фермерскай) гаспадаркі М.Р.Шруба".

Логіка падказвае, што першы намеснік міністра чамусьці блытае час. Якраз аблвыканкам адмовіўся перарэгістраваць фермерскую гаспадарку, хаця яна і калгас працавалі разам паўгода. І ў Адзіны дзяржаўны рэестр юрыдычных асоб не ўнесены змены пра спыненне дзейнасці калгаса "Шлях да камунізму" з прычыны адмовы ў перарэгістрацыі.

Намеснік міністра піша таксама, што "выбраная форма рэарганізацыі фермерскай гаспадаркі... прывяла да парушэння маёмасных, сацыяльных правоў членаў калгаса і дзеючага заканадаўства...". Можа, намесніка міністра проста заблыталі? Рэфармуецца якраз не фермерская гаспадарка Шруба, а даведзены да банкруцтва калгас. І тое, што калгаснікі вёскі Хільчыцы выбралі зусім іншы шлях, чымсьці прадугледжаны 10 афіцыйнымі мадэлямі рэфармавання сельскай гаспадаркі, сведчыць хіба што пра нейкі схематызм у рэфармаванні АПК.

Жыццё аказалася багацейшым.

Чыноўнікі, дарэчы, прапануюць дзяліць калгас на долі, а вяскоўцы — гуртам ідуць да фермера. Магчыма, таму, што долі гэтыя — не зямля, а нейкі грашовы эквівалент зусім не рыначнай вартасці дабітай калгаснай маёмасці.

## Хто ёсць хто?

Напрыканцы мінулага года ў Хільчыцах ладзіўся вясковы сход. Уначы на будынку клуба нехта досыць неахайна напісаў чорнай фарбаю: "Пану — не, Тачыла — здраднік".

Шруб папрасіў загадчыцу клуба не сціраць графіці, нягледзячы на прыезд шэрагу абласных і раённых начальнікаў.

Мясцовы клуб ледзь умяшчаў усіх ахвочых патрапіць сюды. Людзі стаялі паўз сцен, у праходах, добра разумеючы, што зараз ад іх залежыць будучыня, далейшы лёс.

Першым на сходзе слова трымаў Міхаіл Тачыла. Сітуацыя ў чалавека і драматычная, і камічная. Калгаса няма, а ён — выконваючы абавязкі старшыні.

— Я ніякі не здраднік, — заяўляў в.а. старшыні. — Я выконваў волю народа. Цяпер мяне аштрафуюць за скажэнне справаздачнасці. Я паказаў, што ў калгасе няма пагалоўя жывёлы. Яна — у Шруба. Мяне і аштрафавалі на 500 тысяч рублёў.

Міхаіл Шруб перш за ўсё распавёў аднавяскоўцам пра сезонныя вынікі сумеснай працы аб'яднанай гаспадаркі. Яны даволі станоўчыя. Надоі малака ад каровы падвысіліся на 760 кілаграмаў. Валавы надой павялічыўся на 320 тон. Збожжа атрымалі на 40 працэнтаў болей, чым у папярэдні год. Бульбы вырасцілі 2 тысячы тон, увесь раён — 1,3 тысячы.

Пагашана 300 мільёнаў калгасных даўгоў. Куплена тэхнікі і запчастак на 130 мільёнаў рублёў. Аказана бясплатных паслуг вяскоўцам на 70 мільёнаў рублёў. Пабудавана сталовая, дзе механізатары абедаюць бясплатна.

— Давайце падумаем, — звяртаўся Міхаіл Шруб да вяскоўцаў, — хто зацікаўлены ў законным рэфармаванні калгаса? Чым рызыкую я і чым, напрыклад, рызыкуюць чыноўнікі райвыканкама? 300 мільёнаў рублёў мне б хапіла на пяць гадоў, каб сядзець і назіраць, што робіцца ў Хільчыцах.

Выступоўцаў на сходзе было шмат. Пасля першых прамоў прысутныя на сходзе старшыня райвыканкама Пётр Савіцкі, ягоны намеснік Іван Блоцкі, начальнік упраўлення юстыцыі аблвыканкама Валянцін Макарэвіч ды іншыя чыноўнікі сядзелі на сцэне, апусціўшы галовы. Было відавочна, што план рэанімацыі калгаса "Шлях да камунізму" правальваецца.

— Бягуць людзі з пекла ў рай, — заяўляла былая калгасная даярка Марыя Кацэвіч. — Як мы не атрымлівалі месяцамі заробак, як не давалі пенсіянерам, усім іншым збожжа — ніхто не бачыў. Вам тут людзі сядзяць і вочы выпорваюць. У Верасніцы калгас — гіне, у Рычове — гіне. А мы гэтага не дапусцім, і няма чаго аб нас ногі выціраць. Не дамо!

Разам з раённымі чыноўнікамі шматлікія камісіі ўсё спрабуюць даказаць, што ў фермера вяскоўцы не будуць мець аніякіх правоў, сацыяльных гарантый, і асабліва пенсіянеры. І вось што пачулі чыноўнікі ад кіраўніка ветэранскай арганізацыі Валянціны Шруб.

— Раён шкадуе, — сказала Валянціна Іванаўна, — што ў нас тут сацыяльныя гарантыі не выконваюцца. Яны выконваюцца ў Рычове, дзе заробак даюць цюкамі саломы. Даярка там атрымлівае 20 тысяч рублёў, а ў нас — 200—250 тысяч. Механізатар у іх — 30 тысяч, а ў нас — 300 тысяч. Вось такая ў іх сацыяльная сфера, вось такая абарона.

У адмысловай рэзалюцыі сяляне пацвердзілі рашэнне пра далучэнне калгаса да фермерскай гаспадаркі, аднагалосна падтрымалі дзеянні Міхаіла Шруба і нават абралі дэлегацыю для абароны сваіх правоў у органах улады.

Старшыня райвыканкама Пётр Савіцкі адмовіўся даць якінебудзь каментарый з нагоды чарговага рашэння хільчыцкіх сялян. З выступлення ж на сходзе болей за ўсё запомніліся такія словы раённага кіраўніка. "У пэўнай ступені, — казаў Савіцкі, — я ўдзячны, што ўсё так атрымалася. Па той простай прычыне, што я стаў вядомы ва ўсёй рэспубліцы".

Фермер Шруб вынікі схода бачыць у іншым.

— Сход даў карысць, прынёс пэўны плён, — лічыць Міхаіл Шруб. — Людзей прывяло да такога рашэння жыццё, і з гэтым трэба лічыцца.

***

Дом Міхаіла Шруба ў старажытным мястэчку Тураў стаіць на абрывістым беразе рэчкі Струмень, правага прытоку Прыпяці. Паміж сядзібай на дзве соткі і абрывам — усяго пяцьшэсць крокаў, як толькі праехаць машыне.

На лапіку зямлі паміж домам і Струменем узгадваюцца даволі важныя словы бацькі Міхаіла, Рыгора Шруба: "Мы ў сямейным коле параіліся і вырашылі: трэба дамагацца юрыдычнага замацавання волі калгаснікаў. Страты, не страты — патрэбна ўжо нейкае законнае выйсце. Людзі папрасілі, ты пагадзіўся — і кінуць? Так нельга!".

У доме Міхаіла нібы яшчэ раз сустракаюся з ягоным бацькам. На дыване ў гасцінай стаіць куплены ім у 1956 годзе, годзе нараджэння сына, гармонік. Ды не абы які, а ручной работы веткаўскага майстра Акіндзіна Мельнікава.

— Бацька зрабіў некалькі куфараў, — кажа Міхаіл, — прадаў іх і купіў гармонік. Па тым часе за такія грошы можна было прыдбаць карову.

Гармонік амаль і праз паўвека — жывы, галасісты.

І калі наступіць хвіліна і панад Струменем пральецца мелодыя, то мелодыя Міхаіла Шруба. Пра зямлю, пра рэчку, пра волю!

*Жыткавіцкі раён.*

РЕБРОМ!

# Сколько можно перевозить воздух?

То и дело слышишь от разного рода чиновников оправдания, почему растут цены на билеты в общественном транспорте: мол, он страшно убыточен и разоряет госказну. Но вот вопрос — почему именно убыточен — при этом остается без разбора и отодвигается в тень. Попробую его вытащить оттуда.

...Стою я с водителем Слуцкого автопарка №2 в райцентре на остановке "Центральный" в ожидании городского автобуса. Вдруг останавливается междугородный "Икарус" маршрута "Минск—Давыд-Городок". Вместе считаем пассажиров в автобусе: их набирается ровно 6 (шесть). В следующем, прибывшем через 10 минут (маршрут "Минск—Микашевичи"), было 5, причем двое сошли в Слуцке. А знакомая поведала, что она, одна-одинешенька в салоне, ехала из Минска до Постав... Такая картина, увы, повседневна. Госавтобусы фактически перевозят... воздух, зазря расходуя горючее и изнашиваясь в пути. Вот он где, главный источник убытков!

Почему же так получается? Во-первых, билеты не всем по карману. Во-вторых, наши транспортники не слишком вдумчиво составляют расписание движения автотранспорта. Зачем по одной дороге, в одну сторону и почти без интервала отправлять несколько машин? И почему не разрешать при этом водителям брать и самим обилечивать пассажиров по пути следования? Ведь в некоторых пунктах, где нет официальной посадки, скапливается немало желающих ехать по маршруту, по которому уносится от них почти пустой автобус...

У нас в городе возле автомагазина по трассе Слуцк—Минск таких желающих порою часами томятся-волнуются сотни, а транспорта нет. Многих подбирают частники, а государство теряет возможный доход. Ничего себе — "гибкая экономика"!

В-третьих, обычно, рассуждая об убытках на транспорте, не преминают обрушиться — в который раз — на льготников: их, дескать, у нас миллионы, вот кого стоит потрясти! Но опять же давайте разберемся поконкретнее, кто эти льготники. Чаще всего громы и молнии достаются нашим пенсионерам и инвалидам, будто как раз из-за них нищает и без того бедное государство. Хочу вступиться за этих уважаемых людей, которые все силы отдали труду и защите Отечества и заслужили всей жизнью хотя бы небольшую транспортную льготу. А вот другие категории... Скажем, сами транспортники. Только в Слуцком автопарке — несколько сот работников, в любое время по городу и району ездят бесплатно. Я не поленился посчитать: эта бесплатность (для них) обходится государству за год более чем в 90 миллионов рублей! (Неудивительно, что предприятие убыточное.)

Работники автопарка обижаются, когда я об этом говорю: мы же, мол, работаем на транспорте, с какой стати должны платить? Следуя такой логике, работник, скажем, хлебозавода "имеет" право прихватить себе пару булочек (хотя бы на 360 рублей — это цена проезда в обе стороны), на молокозаводе — литр молока, на ткацкой фабрике — катушку ниток и т.д. Абсурд, скажете вы, разорение обществу! И будете правы. Как, впрочем, и абсурд, по моему мнению, то, что розовощекому крепышу-милиционеру, обеспеченному государством по максимуму, не нужно покупать проездной билет. Это тоже влетает нам всем в копеечку.

Словом, наболело. Может, я в чем-то и неправ, но так думаю не только я. А что по этому поводу думают в Министерстве транспорта и коммуникаций?

**Иван ГУКОЛОВИЧ,**
**житель г.Слуцка.**

# Суд не признал Юрия Захаренко умершим

7 мая 1999 года по пути домой исчез экс-министр МВД Юрий Захаренко. Его имя до сих пор для многих граждан олицетворяет человека мужественного, справедливого и свободного.

Семья Юрия Захаренко живет в Германии, где получила политическое убежище. Прошло более трех лет, но о судьбе их близкого человека ничего не известно. Ольга Захаренко в прошлом году решила обратиться в суд с заявлением об объявлении ее мужа умершим, поскольку прошло три года с момента исчезновения Юрия Захаренко. Она хотела хоть таким способом получить информацию о ходе расследования уголовного дела, а также решить имущественные вопросы. В практике такая категория дел разрешается в течении часа.

Дело рассматривалось в суде Октябрьского района г.Минска. По закону надо было объявлять Юрия Захаренко умершим, поскольку в судебном разбирательстве было четко установлено, что его место нахождения не установлено. Прокурор настаивал на объявлении умершим Юрия Захаренко. Но судья Виктор Белянин не смог взять на себя ответственность по данному делу и незаконно приостановил производство, ссылаясь, что вопрос может быть рассмотрен только после окончания расследования уголовного дела.

Уголовное дело об исчезновении Захаренко может расследоваться 25 лет. Представьте, как себя чувствуют сейчас в семье Захаренко. Жена и две дочери не смогут распоряжаться имуществом, пока не будет решения суда об объявлении Юрия Захаренко умершим .

Я обратился с жалобой на незаконное решение Белянина в коллегию по гражданским делам Минского городского суда. Председательствующая судья Жупикова не смогла принять решение в соответствии с Законом.

Президиум Минского городского суда под председательством Ардяко также не нашел оснований отменить решение суда Октябрьского района. Судьи просто перестраховываются и боятся признать очевидное. Ведь никто не знает, какая будет реакция Того человека, который их всех своими указами утвердил пожизненно судьями.

В настоящий момент я как представитель Ольги Захаренко готовлю жалобу в Верховный суд. Посмотрим, сможет ли суд все же определить статус Юрия Захаренко.

**Олег ВОЛЧЕК,**
**юрист, представитель Ольги Захаренко.**

ПУЛЬС

## Пінскі школьнік асуджаны за выраб і збыт фальшывых грошай

Вучань дзесятага класа адной з сярэдніх школ Пінска асуджаны на тры месяцы зняволення за выраб і збыт фальшывых грашовых знакаў.

На камп'ютэры, які падарылі бацькі на дзень нараджэння, ён прыладзіўся друкаваць пяцітысячныя купюры. Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Фальшыўкі збываў разам з сябрамі на рынках горада, купляючы за іх тавары. Усяго падчас следства супрацоўнікамі міліцыі было канфіскавана ў насельніцтва 15 падробак.

Падчас судовага працэсу зала пасяджэння была запоўнена людзьмі, якія шчыра спачувалі хлопцу. Толькі пасля вынясення прысуду, паводле якога тэрмін пазбаўлення волі быў гуманна вызначаны менш за рэальна адбыты, падлетак змог нарэшце вярнуцца дадому. Ад больш суровага пакарання яго выратавала тое, што суд прыняў да ўвагі доказы абароны адносна якасці падробак. Усе яны былі выраблены на звычайнай пісчай паперы, простым вокам адрозніваліся ад сапраўдных купюр, а таму гаворка аб фальшываманецтве ісці не магла.

**Павел КУНІЦКІ.**

## У нас з'явіліся фальшывыя банкноты еўра

У Беларусі з'явіліся фальшывыя банкноты валюты Еўрапейскага Саюза вартасцю 50 і 100 еўра.

Зарэгістраваны збыт фальшывых еўра ў Мінску, Брэсце, Гомелі, Гродне, Лідзе, Мар'інай Горцы, Маладзечне і іншых гарадах. Паводле сваіх знешніх прыкмет падробкі вельмі падобныя да сапраўдных грашовых знакаў. Выявы вонкавага і адваротнага боку фальшывак выраблены з прымяненнем каляровага лазернага прынтэра, магчыма, капіравальна-размнажальнай тэхнікі, на белай паперы (для банкнот 100 еўра) і на паперы з жоўтым адценнем (для банкнот 50 еўра) з гашэннем ультрафіялетавай люмінесцэнцыі.

Як зазначаюць спецыялісты Нацыянальнага банка, якасць падробных банкнот паляпшаецца, прычым не толькі па знешніх прыкметах, але і па прыкметах абароны ва ультрафіялетавых промнях.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Расійская нафтавая кампанія «Юкола» набыла рэстаран у Гродне

У аўкцыёне па продажы рэстарана бралі ўдзел чатыры суб'екты гаспадарання. Пачатковая цана аб'екта камунальнай уласнасці складала 95 мільёнаў рублёў. У выніку таргоў "Юкола" набыла яго за 300 мільёнаў рублёў.

Дырэктар прадстаўніцтва кампаніі "Юкола" ў Гродне Аляксандр Нікішачкін паведаміў БелаПАН, што кампанія ўзяла на сябе абавязацельства захаваць профіль прадпрыемства і колькасць працоўных месцаў на працягу двух гадоў. Апроч таго, "Юкола" пагасіць каля пяці мільёнаў рублёў запазычанасці "Нёмана". А.Нікішачкін зазначыў, што пасля рамонту памяшкання, плошча якога складае каля 800 квадратных метраў, у ім зноў будзе працаваць рэстаран.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Поспех беларускай школьніцы

Каб трапіць у фінал прадстаўнічага XI Міжнароднага конкурсу чытальнікаў імя Адама Міцкевіча, вучаніцы 11-га класа пастаўскай СШ №2 Веранікe Сівіцкай спатрэбілася не толькі блізка пазнаёміцца з творчасцю сусветна вядомага літаратара, але і выйграць некалькі адборачных тураў.

Заключная частка конкурсу праходзіла ў горадзе Беластоку і сабрала юныя таленты з 10 краін свету, дзе ёсць польскія школы. Але і там Вераніка не разгубілася і сваім выступленнем больш за ўсіх спадабалася журы і заваявала першае месца. Акрамя дыплома, школьніца прывезла дамоў грашовую прэмію і падарунак ад спонсараў.

## Цэнтр Еўропы — у Глыбокім

Сапраўднай сенсацыяй мінулага года стала адкрыццё беларускімі вучонымі, што геаграфічны цэнтр Еўропы знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне побач з возерам Шо на паўднёвым захадзе ад Полацка. Праўда, падобныя разлікі прысвойваюць сабе спецыялісты Чэхіі, Польшчы, Літвы і іншых еўрапейскіх краін.

Пакуль навуковая грамадскасць не прыйшла да адзінай высновы, ніякіх апазнавальных знакаў з гэтай нагоды на Глыбоччыне не сталі ўстанаўліваць, а вось сімвалічны цэнтр у горадзе вызначылі. Аб гэтым сведчыць прыгожы бліскучы дыск на перакрыжаванні вуліц Леніна і Маскоўскай. Кожны аўтамабіліст цяпер ведае, што адсюль адлегласць да Віцебска — 187 км, а да сталіцы Беларусі яшчэ бліжэй — 162 кіламетры.

**Уладзімір ШЫК.**

SOS!

## ...Иначе все уйдем раньше времени

В своей предвыборной кампании, обращаясь по телевидению к народу, А.Лукашенко гарантировал старикам социальную защиту и рост пенсий в соответствии со ст.47 Конституции Республики Беларусь. И мы ему верили!

Однако если до октября 2001 года наши небольшие пенсии все-таки пересчитывались в сторону роста в соответствии с законодательными актами и ростом средней зарплаты, то с октября 2001 года, т.е. с момента избрания президента и назначения министром труда и социальной защиты А.П.Моровой, рост пенсий прекратился.

До ноября 2002 года пересчет был только один раз — в феврале. Государственные СМИ преподносят народу откровенную ложь о якобы четырехразовом пересчете пенсий. Увеличение пенсий отдельным категориям пенсионеров муссируется как повсеместное, что создает видимость благополучия.

Декрет президента №18 от 25 июля 2002 года "О некоторых вопросах социальной защиты граждан" полностью лишает пенсионеров даже иллюзий на эту самую социальную защиту.

Этим декретом предусмотрены все варианты замораживания пенсий, а именно:

1.Увеличение барьера роста средней зарплаты для расчета пенсий с 10 до 15 процентов. По закону никаких барьеров вообще не должно быть.

2.Средняя зарплата для пересчета принимается не за предпоследний месяц, а за целый предыдущий квартал. И это несмотря на безудержный рост цен на продукты, лекарства, проезд и коммунальные услуги.

3.Наконец, средняя зарплата — это, оказывается, теперь уже не та официальная зарплата, которую вычисляют органы статистики. Для расчета пенсий принимается придуманная А.П.Моровой средняя зарплата без учета фонда оплаты труда, с которого не уплачены страховые взносы.

Но, позвольте, при чем тут пенсионеры, которые всю свою трудовую жизнь регулярно уплачивали страховые взносы?

За нарушение высокооплачиваемых чиновников предприятий теперь должна расплачиваться самая незащищенная часть общества — пенсионеры! Это полный произвол министра А.П.Моровой, ничего подобного не предусматривает даже Декрет президента №18 от 25 июля 2002 г.

Таким образом, вся политика министерства направлена не на социальную защиту пенсионеров, как это предусмотрено ст.№47 Конституции Республики Беларусь, а на замораживание существующих размеров пенсий, на голодное существование и унижение стариков. Жалкое зрелище вызывают у молодежи оборванные, собирающие бутылки и объедки на помойках старики-ветераны. Министерство следует переименовать из "социальной защиты" в Министерство "социального удушения" пенсионеров.

Поскольку с февраля 2002 года пенсии не повышались, то по существующему ранее законодательству в ноябре пересчет пенсий в сторону увеличения должен составлять 24,3%, пропорционально росту средней зарплаты за этот период, а не 12,7%, как установлено правительством. Кстати, рост 20% президент называл по телевидению.

Призываем пенсионеров объединиться, создать в Минске Республиканский совет пенсионеров по защите их прав. Иначе все умрем раньше времени.

**Пенсионеры г.Солигорска:**
**В.В.КОБАНОВА, Н.А.ШИЛОВИЧ, М.Д.ГОРОХОВ, М.И.САЛЬНИКОВА, Е.С.КУБАНОВА, С.В.БАРКОВА, Ю.Н.ТРУШКИН, М.А.ТРУШКИНА, Г.Н.РАК, С.В.ЛЮЦКО, А.А.СМУРАГА, И.А.ГОРАНИН, Р.В.ГОРАНИНА, М.А.ПРОХОРИК, А.И.МЕЛЕШКО, Т.А.СИКОРСКАЯ, О.В.САЛЕНИКОВИЧ, Е.О.МЛЕЧКО, П.З.ГОЛОВЧИЦ,**
**всего 84 подписи.**

## Приглашение на праздник

По случаю 40-й годовщины подписания германо-французского Договора о дружбе (Елисейского договора) послы Германии и Франции организуют 22 января 2003 г. праздничный германо-французский концерт с участием Государственного камерного оркестра Республики Беларусь.

На 23 января 2003 г. запланировано совместное возложение венков в Хатыни, Куропатах и у мемориала жертвам еврейского гетто в Минске "Яма".

Во второй половине этого дня в Доме дружбы в Минске состоится праздник для белорусских школьников, которые изучают немецкий и французский языки.

## Концерт Юрия Блинова

16 января известный белорусский пианист Юрий Блинов, стажер Техасского христианского университета (США), дает бесплатный сольный концерт в актовом зале гимназии-колледжа при БГАМ (пл.Свободы, 7).

В программе: Бах, Бетховен, Брамс.

**Начало в 19.00.**

